КОШТ 40 КАП.




№ 5 — 6 ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА ● ТРАВЕНЬ 1990



# МЫ СТАМІЛІСЯ

Как наш ЦК писал
в письме открытом,
Мы одобряем линию его.
Уладзімер Высоцкі

**Мы стаміліся.**

**Мы стаміліся ад дасягнутых пад кіраўніцтвам партыі велічных посьпехаў у ажыцьцяўленьні велічных ідэяў.**

**Мы стаміліся ад нашых маштабных дасягненьняў у Харчовай праграме, пасьля якіх есьці робіцца ўсё меней і меней.**

**Мы стаміліся ад усенароднае барацьбы з п'янствам і алкагалізмам, у выніку якой на мейсцы вінаграднікаў пасадзілі бульбу і іншыя культуры, што там не растуць, айчынная самагонная тэхніка перасягнула ўзровень японскіх стандартаў, а алкаголікі, выпіўшы ўсе ласьёны, ужо чакаюць нас у лепшым сьвеце.**

**Мы стаміліся ад шырока разгорнутага сацыялістычнага спаборніцтва, калі ад несьвядомае каровы, якая не канспэктавала твораў клясыкаў, трэба атрымаць малака болей, чым яна можа даць, а ідэалягічна непадкаваная курачканясушка канае, не справіўшыся з падвышанымі сустрэчнымі абавязацельствамі.**

**Мы стаміліся бясконца перавыконваць народнагаспадарчы плян і думаць, што лепей было б, каб мы яго ніколі не перавыконвалі, а хоць адзін раз проста выканалі.**

(Далей глядзі стар. 4)




Фота Алеся Крыштаповіча.

# «РОССИЯ» — ГЭТА «КОЛХОЗ»

А мы, выходзіць, — «Россия»...

Магістраль М-12 Менск — Талін не праходзіць па тэрыторыі РСФСР. Але для чалавека, які едзе з Прыбалтыкі, гэта зусім не аксіёма. Пераехаўшы мяжу Беларусі, ён чытае прыдарожныя шыльды і бэтонныя канструкцыі: «Колхоз Калинина», «Светлый путь», «Колхоз Россия». Нішто, апроч спакойных у сваёй прыгажосьці, краявідаў, ня кажа яму, што ён — на Беларусі, сярод добрых людзей... Не, ён — у «России», а «Россия» — гэта «колхоз»!

# НЯХАЙ БУДЗЕ ІНСТЫТУТ...

**У Менску пачаў працу новы Вярхоўны Савет БССР. Які ў яго зыходны палітычны імідж і капітал? Якія яго першыя сутнасныя характарыстыкі? Пра гэта на старонках беларускае газэты СВАБОДА — публіцыст Мікалай СЕРДЗЮКОЎ:**

На кожнага чалавека зрэдку навальваецца пэсымістычны настрой. У мяне ён якраз супаў з пачаткам работы новага Вярхоўнага Савету. Крыху горка, крыху сорамна, але ж трэба зь нечага пачынаць беларусам.

У рэшце рэшт, чаго чакалі або чакаюць ад парлямэнту аптымісты? Высокай палітычнай культуры? Важных палітычных рашэньняў?...

Палітычная культура выхоўваецца палітычным жыцьцём. А яно ёсьць найперш — удзел у справах дзяржавы. Наколькі Беларусь была дзяржавай, настолькі яна выпрацоўвала ўласную палітыку, настолькі ў нас назапасілася палітычных традыцый, досьведу і гэтак далей.

Магчыма, актывісты Беларускага народнага фронту прадэманструюць высокую палітычную культуру? Магчыма. Будзем жыць, будзем бачыць.

А ў шырокіх колах насельніцтва пусьціла глыбокія карані культура імітацый. Мы навучыліся рабіць пэўны выгляд на партыйных сходах, паседжаньнях камітэту народнага кантролю на чале з М. Лагірам... Мы найлепшыя ў сьвеце спэцыялісты ў галіне тэатралізацыі жыцьця. Бо мелі выбары бяз выбару, прэсу без свабоды слова, эканамічнае спаборніцтва бяз права на прадпрыймальнасьць, праваадыроў без самастойнай палітыкі.

Традыцыі імітацыі і тэатралізацыі жыцьця ў Вярхоўным Савеце не разбурыліся адразу. Яны паказалі сябе на мікраўзроўні за сталом прэзыдыума. Старшыньствуючы Лагір старшыньстваваць быў нядольны, таму ў дапамогу яму далі юрыста В. Ціхіню. Усё якраз нібы ў тэатры: Ціхіня суфляваў, Лагір выконваў ролю. Хто зь іх галоўны? Наогул, хто ў нас улада, а хто служыць ёй?

Хто ў нас улада, а хто служыць ёй — гэта найсакрэтнейшае пытаньне, якое толькі пачынае высьвятляцца. На мікраўзроўні мы пабачылі, зірнем яшчэ й на макра. Можа так здарыцца, што большасьць дэпутатаў будзе паслухмяная не народу, а вышэйшым саноўнікам. Ужо ў самы першы дзень у нашым Вярхоўным Савеце давялося пачуць разважаньні пра тое, што сярод вышэйшых саноўнікаў няма адказных за дэзынфармацыю пра пасьлячарнобыльскую трагедыю. Адчуваеце? Яны проста ня ўмелі сказаць, як Лагір. Таму й страшна, каб зноў імітацый не надарылася, каб нанова не давялося сутыкнуцца з тэатрам.

Крылы ў парлямэнце вызначыліся адразу. З аднаго боку паўсотні дэпутатаў, ня больш, з другога — больш за дзьве. Зянон Пазьняк пастаяў колькі хвілінаў у чарзе каля мікрафона, зажурыўся і пайшоў. Ці не таму, што добра ведае суадносіны сілаў?

Каб напраўду справа ішла не да расколу, а да кансалідацыі, то варта было б дэпутатам задумацца: а якія правы наогул мае наш Вярхоўны Савет? За межы саюзных законаў яму сягаць не дазволена, а дэклярацыю пра незалежнасьць ён, па ўсім відаць, ня прыме. Вось і цяжка вызначыць пэсымісту, на што яму спадзявацца. На імітаваную самастойнасьць ці на незалежную тэатралізацыю?

Даволі гарачыя спрэчкі ў першы дзень разгарэліся наконт нейкага заканадаўчага інстытута. Быць яму ці ня быць, Мне дык захацелася, каб стварылі інстытут. Не пабудуем сапраўднага парлямэнту — інстытут застанецца. Калі пашкадуе радыяцыя нашых наступнікаў, то ім трэба будзе таксама зь нечага пачынаць.

**P.S.** Вярхоўны Савет адмовіўся разглядаць пытаньне пра рэгістрацыю Беларускага народнага фронту. Фактычна, дэпутаты, якія прызнаюць Беларускі народны фронт, павінны былі б пакуль што адмовіцца ад удзелу ў сэсіі. Каб не ператвараць саміх сябе ў жывыя дэмакратычныя дэкарацыі.

**М. С.**




**На плошчы. Фотаэцюд К. Войткі (фрагмэнт).**

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Вельміпаважаныя панове!

У артыкуле «Хто стане прэзыдэнтам Беларусі?» (СВАБОДА, № 3 — 4) я дапусьціў недакладнасьць: напісаў, што ў парлямэнце Рэспублікі няма інвалідаў, сьляпых, глухіх, а толькі функцыянэры гэтых таварыстваў. Ужо ў дзень выхаду газэты (12 траўня) я пераканаўся, што гэта ня так: на нараду дэмакратычных дэпутатаў зьявіліся абраньнікі Таварыства інвалідаў на калясках. І тады я вырашыў папрасіць у чытачоў і паважаных дэпутатаў прабачэньня, што і раблю з пачуцьцём віны і радасьці.

Першыя пяць дзён сэсіі Вярхоўнага Савету Рэспублікі паказалі, што многія дэпутаты ад гэтых арганізацыяў прытрымліваюцца дэмакратычных пазыцыяў. У гэтыя дні мы пераканаліся таксама, што й сярэдняе зьвяно партыйнага апарату здольнае адкінуць навязаныя кіраўніцтвам КПБ умовы гульні, рэальна зірнуць на палітычную сытуацыю ў Рэспубліцы. Яскрава гэта выявілася пры абраньні першага намесьніка Старшыні Вярхоўнага Савету. Дэпутат Станіслаў Шушкевіч быў абраны на гэтую высокую пасаду і галасамі тых партыйных функцыянэраў, якія пераканаліся, што імі кіруюць недальнабачныя людзі. Галасаваньне аб уключэньні ў парадак дня сэсіі пытаньня аб прызнаньні БНФ таксама паказала, што значная частка дэпутацкага корпусу здольная аб'ектыўна зірнуць на палітычныя рэаліі ў Рэспубліцы. Карацей, кампраміс паміж радыкальнымі дэпутатамі і цэнтрам магчымы. Шмат што будзе залежаць цяпер ад тактыкі «левых», ад тых аргумантаў, якія яны выставяць на карысьць палітычнага й эканамічнага сувэрэнітэту Рэспублікі. Першыя пяць дзён сэсіі паказалі, што прыхільнікамі дэмакратычных зьменаў і сувэрэнітэту будуць таксама й дэпутаты ад таварыстваў сьляпых, глухіх ды інвалідаў. Вось чаму я прызнаю сваю памылку з радасьцяй.

З павагаю Анатоль Сідарэвіч.

# Колькі народу уваходзіць у БНФ?

Ангельскі часопіс TIME ў сваім сакавіцкім нумары паведаміў, што Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» налічвае каля 100.000 сяброў. Цікава, ці пацьвердзіць гэтую лічбу заплянаваная на лета перарэгістрацыя радаў і групаў падтрымкі фронту?

# У МЕНСКУ ДУМАЮЦЬ ТАК

Беларуская газэта СВАБОДА правяла ў Менску бліцапытаньне грамадзкае думкі. Нам адказалі 157 чалавек «з вуліцы» і па тэлефоне. Гэта амаль пароўну жанчыны і мужчыны, 45 — рабочыя, 35 — ІТР, 31 — службоўцы, 19 — студэнты, 14 — пэнсыянэры, 8 — навукоўцы.

У пазытыўную дзеяздольнасьць новага Вярхоўнага Савету БССР **ня вераць** 73 % апытаных. Самыя тыповыя адказы: «Пакуль пры ўладзе Сакалоў з кампаніяй — лепшага не чакай», «Калі й былі надзеі, дык з выбраньнем Дземянцея іх не засталося».

**Вераць** у Вярхоўны Савет пераважна жанчыны, але іхняя вера нібы завучаная: «Ну, вядома, спадзяемся ...», не зусім шчырая. На большую дэмакратызацыю (і на адстаўку кіраўніцтва) спадзяюцца пераважна ІТР, службоўцы.

**Чакаюць паляпшэньня** — 27%.

**Нічога не чакаюць** — 60%.

**Чакаюць горшага** — 13%.

Сярод самых важных пытаньняў сэсіі новага Вярхоўнага Савету: **Чарнобыль** — назвалі 47%, **сацыяльную сфэру** — 33%, **эканамічныя рэформы** — 32%, эканамічную **незалежнасьць Беларусі** ад Масквы — 25%, **дэмакратызацыю** (адмену шостага артыкула Канстытуцыі, рэгістрацыю БНФ, шматпартыйнасьць, абарону правоў чалавека, вольныя выбары і інш.) — да 30%, **злачыннасьць** — 4%, **міжнацыянальныя адносіны** — 2%.

**Адносіны да незалежнасьці Літвы.** Падтрымліваюць 32%, лічаць пасьпешнасьцю — 36%, не падтрымліваюць — 24%. Папулярнае тлумачэньне апошніх: «Усё адно яны кудынебудзь увойдуць — у ЕЭС ці яшчэ куды. Няхай ужо з намі. Столькі гадоў разам». 12 — 15% разважаюць па-імпэрску: страчваем выхад да мора, страчваем Вільню і г. д. 2 — 3% пашкадавалі «просты народ Літвы», які церпіць ад «незаконнага ўраду Ландсбергіса». 8% ня маюць думкі. Толькі 1 чалавек выказаў сумненьне ў сваёй поўнай кампэтэнцыі па гэтым пытаньні.

**Блякаду Літвы** падтрымліваюць цалкам 16%, часткова — 17%, не падтрымліваюць — 52%, ня могуць адказаць — 15%.

**Якім крыніцам інфармацыі давяраюць?** Тэлебачаньню — 46%, афіцыйнай прэсе — 39%, нефармальнай прэсе — 30%, радыё «Свабода» і падобным — 23,5%, сябрам і знаёмым (жанчыны) — 22%. Ня вераць нікому — 21,6%.

Адам Глёбус

# ІКАР НАД КРАМЛЁМ

## Вольнае прачытаньне верша Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык»

Аднойчы я ўзьняў голаў і ўбачыў рэклямную гаргару «Аэрафлёт — хутка і зручна!». Выгнуты з бляхі самалёт вісеў над вялізнай ружаю вятроў. Звычайная брыда, такіх у нашым Менску колькі заўгодна: «Не давайце дзецям запалкі!!!», «Турызм — здароўе і адпачынак», «Набывайце камп'ютары!»... Але гэты аздоблены нэонавымі трубкамі самалёт выклікаў у маёй памяці Купалаўскія радкі:

**— Мой мілы таварыш,**
**мой лётчык,**
**Вазьмі ты з сабою мяне!**
**Я — ведай — вялікі ўжо**
**хлопчык,**
**І ўмею ўжо лётаць у сьне.**

Перакананы, што гэты выпадак забыўся б, каб ня кніга, якую я трымаў у руцэ — «Легенды і міфы старажытнай Грэцыі». Зьявілася пытаньне. Ці не Ікар гэта просіць Дзядала ўзяць яго ў палёт? Можа, вядомы верш — імправізацыя паводле клясычнае легенды?

Пачытаем.

«І ўзяўся за работу Дзядал. Ён набраў пёраў, змацаваў іх ільнянымі ніткамі ды воскам і пачаў складаць з усяго гэтага чатыры вялікія крылы. Пакуль Дзядал працаваў, сын ягоны Ікар гуляў непадалёк ад бацькі: ці-то лавіў ён пух, які ўзьлятаў ад павеваў ветру, ці-то мяў у руках воск. Нарэшце Дзядал скончыў сваю працу — крылы былі гатовыя. Дзядал прывязаў іх на сьпіну, рукі ён прасунуў у петлі, што былі пад крыламі, узмахнуў імі і плаўна ўзьняўся ў паветра. Са зьдзіўленьнем і захапленьнем глядзеў Ікар на бацьку свайго, які лунаў у паветры, нібыта вялікі птах...»

**— Мой мілы таварыш,**
**мой лётчык,**
**Вазьмі ты з сабою мяне!**

Ці мог сказаць такое Дзядалу Ікар? Вядома, што не. Іншы час і іншы зварот, але інтанацыйна і настраёва Ікар і Купалаўскі хлопчык вельмі падобныя.

«Хуткі палёт захапляе Ікара, усё сьмялей узмахвае ён крыламі...»

**Вазьмі-ж мяне, лётчык,**
**хачу я**
**Пабыць у людзях,**
**паглядзець,**
**Як месяц на небе начуе**
**Як блукае ў лесе**
**мядзьведзь...**
**На моры зірнуць хоць раз**
**вокам,**
**Як ходзяць па іх караблі,**
**Ляцеці далёка, высока...**

«Моцна ўзмахнуў крыламі і ўзьляцеў Ікар высока ў неба, бліжэй да прамяністага сонца...»

Далей — падзеньне, ад якога перахоплівае дух і сьціскаецца сэрца. Ікар падае, а хлопчык гаворыць далей:

**Ды так пабываць у Крэмлі.**
**І там з-пад нябеснае далі**
**Грымнуць громка ўсімі**
**грудзьмі**

# МЫ СТАМІЛІСЯ

(Працяг са стар. 1)

**Мы стаміліся есьці прадукты, у якіх няма радыёнуклідаў толькі датуль, пакуль у нас няма дазіметраў.**

**Мы стаміліся ад удзячнасьці стваральнікам сацыяльнае праграмы «Жульлё» (прабачце, «Жыльлё») — 2000.**

**Мы стаміліся змагацца за правы гарлемскіх нэграў, што маюць, як пісала наша прэса, у сярэднім усяго па 5 квадратных мэтраў жылой плошчы на чалавека, у нас жа гэтых мэтраў у сярэднім трошкі болей толькі за кошт тых, хто рэгулярна езьдзіць глядзець на гарапашных нэграў і мабілізоўвае нас на барацьбу за іхнія правы.**

**Мы стаміліся, едучы ў грамадзкім транспарце, думаць пра тое, чым накарміць дзяцей, ведаючы, што нехта ўжо ўехаў у свой камунізм ня толькі на пэрсанальнай машыне, але й на пэрсанальнай нумарной карове.**

**Мы стаміліся перадаваць у лістах і па тэлефоне прывітаньні людзям, якія ўдзень і ўначы самаахвярна захоўваюць таямніцу нашага ліставаньня і тэлефонных перамоваў.**

**Мы стаміліся глядзець на аточаны чорнымі «Волгамі» і аздоблены гранітам гмах, ведаючы, што цераз вуліцу ад яго гараць і гніюць у сутарэньнях кнігі нашае галоўнае бібліятэкі.**

**Мы стаміліся чытаць і слухаць прамовы чалавека, які, рыхтуючыся да сустрэчы сваіх маскоўскіх гаспадароў на нейкім сэмінары, загадаў да лёзунгу «Человек — это звучит гордо» прымаляваць слова «советский».**

**Мы стаміліся ад таго, што нашай эканомікай кіруюць фізкультурнікі, культураю — сантэхнікі, а ўсім разам — спэцыялісты па сьвінагадоўчых комплексах.**

**Мы стаміліся ўскладаць кветкі да помнікаў тым, хто павёў нас у сьветлае заўтра, дзе, на жаль, не давялося жыць ім самім.**

**Мы стаміліся чакаць, калі збудуюць помнікі тым, хто бараніў нашую зямлю, а ня тым, хто аддаваў Беларусь немцам на перамовах у Брэсьце і па**

**— Дзень добры, таварыш**
**наш Сталін!**
**Паклон з самалёта прымі!**

Нешта таемна жахлівае ёсьць у апошнім радку. «Паклон з самалёта» — хлопчык падае — «прымі!» — Божа, прымі яго.

Можа, гэта мая беспадстаўная фантазія?

Але паспрабую быць пасьлядоўным.

Калі лётчык — Дзядал, хлопчык — Ікар, дык Сталін — Мінос, сын Зэўса і Эўропы. У старажытных афінскіх паданьнях Мінос — вораг і заваёўнік грэкаў.

«Шмат гадоў жыў Дзядал у Міноса. Не хацеў адпускаць яго цар з Крыта, толькі адзін жадаў ён карыстацца талентам вялікага мастака. Як палоннага трымаў Мінос Дзядала на Крыце. Дзядал доўга думаў, як уцячы яму, і нарэшце знайшоў ратунак . . . »

**Вось гэтак у добрым**
**здароўі!**
**Мы будзем ляцець і**
**ляцець . . .**

Наступную сваю думку я доўга ня мог наважыцца занатаваць.

(Далей глядзі стар. 13)

**жывому рэзаў яе напалам на перамовах у Рызе.**

**Мы стаміліся чытаць газэты, першыя словы якіх 70 гадоў палохаюць сьвет заклікам зьяднаць пралетарыяў усіх краін, як быццам невядома, што атрымалася ў адной асобна ўзятай.**

**Мы стаміліся есьці ўмоўна чыстую ежу.**

**Мы стаміліся чытаць умоўна праўдзівую «Праўду».**

**Мы стаміліся жыць ва**
**ўмоўна дэмакратычнай**
**дзяржаве.**

**Мы стаміліся быць**
**умоўна роўнымі.**

**Мы стаміліся быць умоўна**
**вольнымі.**

**Мы стаміліся быць умоўна**
**жывымі.**

**Вы чуеце?**
**Мы стаміліся . . .**

Уладзімер АРЛОЎ



9, 1990

Chernobyl Revisited

TIME





Гэтыя здымкі чарнобыльскіх мутантаў мы ўзялі з ангельскага часопісу TIME (красавік, 1990). Вось жарабя, у якога 8 ног, а вось — сьляпая ад нараджэньня сьвіньня . . .

# НА ШТО ЗДАТНЫ

## Гутарка са старшынём Сялянскага

— Давайце зробім так. Спачатку я паразважаю з пытаньнямі, а пасьля Вы паразважаеце — з адказамі.

Я думаю пра сэнс існаваньня Вашага Саюзу (дарэчы, як ён завецца: Беларускі сялянскі саюз ці Сялянскі саюз БССР? Гэта істотна. Альбо Вы беларуская арганізацыя, альбо рэгіянальная, «окраинная». Як вы ставіцеся да незалежнасьці Беларускай Рэспублікі — ад усялякіх вонкавых «цэнтраў» і «старэйшых братоў»?).

Вось Вы дэкляруеце сваю **практычную** дапамогу сельскім гаспадарам — фермерам, арандатарам, каапэратывам. Ці можаце Вы па пунктах пералічыць формы такой канкрэтнай **практычнай** дапамогі? Мне цікава, наколькі Вы **гаспадарчая** арганізацыя, саюз гаспадароў.

Прызнацца, мне прасьцей ~~уявіць~~ Ваш саюз саюзам палітыкаў. Бо калі Вы маеце на мэце перарганізацыю ўсёй сельскай гаспадаркі Рэспублікі, дык гэта задача ўраду, а ўплываць на ўрад найбольш эфэктыўна можна толькі праз Вярхоўны Савет. Фермеру няма калі сядзець на сэсіях, выпрацоўваць эканамічныя дактрыны і г. д. Фермер-палітык прагарыць. Калі гэта ўсё так, калі вы — арганізацыя палітыкаў, дык чаму б Вам не аформіцца ў партыю — у сялянскую партыю — дзеля большага эфэкту Вашай выбарчай ды парлямэнцкай барацьбы?

У Вашых інтэрвію я чытаў, што «фермеры не пагражаюць калгасам і саўгасам». Вы спасылаецеся на Латвію, дзе не ліквідаваны ніводзін калгас. Але, па-мойму, спасылка гэтая кульгае. Латыскі калгас зусім не такі ідэалягізаваны і таму не такі прыгонны, фэадальны, як наш, беларускі. Калі ж у нас сёньня каля калгаса ствараецца фермерская гаспадарка (нават, дапусьцім, цалкам незалежная ад калгаса, што малараэальна), калгас усімі праўдамі й няпраўдамі будзе душыць фермера. Хоць бы за тое, што ён не такі, як усе. Сёньня «выпадкова» над ягонай фермай чмыхне хімікатамі самалёт, заўтра хлеў «раптам» згарыць, пасьлязаўтра — яшчэ якая прыкрасьць. Чым Вы практычна дапаможаце кожнаму такому фермеру з Вашай нефармальнай цэнтралізацыяй?

Вы можаце толькі (як палітыкі) змагацца за скасаваньне манаполіі калгасаў, каб удзельная вага свабодных гаспадарак у эканоміцы Рэспублікі была большая за ўдзельную вагу калгасаў і саўгасаў. А гэта задача палітычная. І пэрспэктывы яе вырашэньня бязрадасныя, бо ў палітычным органе прадстаўленыя якраз калгасы, а не свабодныя гаспадаркі.

Я кажу — свабодныя. Бо сёньня гаспадар ня хоча быць ад пачатку закладзены, прададзены і ўдзячны некаму, нават і Вашаму саюзу. Ён гатовы пачаць з нуля, сам і адзінае, чаго яму сапраўды не хапае, — гэта прыватнае ўласнасьці. Але вяртаньне прыватнае ўласнасьці — таксама палітычная задача. І вырашаць яе ў Вярхоўным Савеце сёньня і заўтра таксама будуць старшыні калгасаў, а ня Вы.

Вялікая рэч у палітыцы — фармаваньне грамадзкае думкі. Кажуць, у каго ў руках інфармацыя — у таго і ўлада. Але сродкі масавае інфармацыі сёньня працуюць хутчэй супраць Вас, а не за Вас.

Нарэшце, ці мае саюз распрацаваную цэльную карціну будучыні сельскае гаспадаркі на Беларусі, свае праекты законаў пра зямлю і ўласнасьць, зь якімі ў Вярхоўным Савеце могуць выступіць дэмакратычныя дэпутаты?

Словам, палітычных посьпехаў не відаць. Але не дзеля таго я ўсё гэта пералічваю, каб Вы зараз жа адказалі мне, што Вы, маўляў, арганізацыя маладая і ўсё ў Вас наперадзе. Мяркуючы з Вашага інтэрвію «Политическому собеседнику», Вы і ня вельмі хочаце быць арганізацыяй чыста палітычнай. Такім чынам, вы ня ёсьць саюзам гаспадароў — аб'ектыўна, пра што я казаў напачатку, і Вы ня ёсьць саюзам палітыкаў — суб'ектыўна, ня хочаце. (У гэтым, дарэчы, я бачу таксама прычыну Вашай малой вядомасьці, асабліва на вёсцы). Мяркую, што не зьяўляецеся Вы і арганізацыяй навуковай. Дай Бог, каб я памыляўся. Магчыма, у вас ёсьць нейкія посьпехі ці хоць бы пляны як у арганізацыі камэрцыйнай?

Напрыклад, я хацеў бы на 2 ці 3 гады ўзяць у арэнду кавалак зямлі ў Смаленскай вобласьці. Кажуць, там шмат кінутых, даўно неараных палёў, і можна за кароткі час зарабіць пачатковы капітал. Чым паспрыяе мне ў такой справе Ваш саюз?

**СВАБОДА.**

* * *

**— Назва нашай арганізацыі — Сялянскі саюз БССР. Абставіны рэгістрацыі склаліся такім чынам, што замест Беларускага сялянскага саюза (а менавіта гэтая назва гучала на ўстаноўчай канфэрэнцыі) зьявіўся на сьвет Сялянскі саюз БССР. Хоць я ня думаю, што сама па сабе назва можа істотна ўплываць на вынікі дзейнасьці арганізацыі.**

**Цяпер што датычыць незалежнасьці Беларускай Рэспублікі. Я баюся незалежнай рэспублікі, у якой правіць адна партыя, якая мае адзіную**

# СЯЛЯНСКІ САЮЗ?

## саюзу БССР Мікалаем Ярмоленкам

афіцыйную сталінска-брэжнеўскую ідэалёгію, у якой існуе адна дзяржаўна-калгасная форма ўласнасьці. І якая любое намаганьне «цэнтру» на скасаваньне адміністратыўнай сыстэмы разглядае як «вмешательство во внутренние дела».

Мэта дзейнасьці Сялянскага саюзу — садзейнічаць усталяваньню і разьвіцьцю сялянска-фермерскіх гаспадарак.

Спосабы дасягненьня гэтай мэты вядомыя і шырока выкарыстоўваюцца ва ўсім сьвеце. Абараніць інтарэсы сялянаў, стварыць умовы для эфэктыўнай дзейнасьці гаспадарак можна толькі на шляху разьвіцьця каапэрацыі. Дзеля гэтага і ўтвараюцца таварыствы, асацыяцыі, саюзы. Аб'яднаньні ствараюцца на самых розных узроўнях: ад мясцовага да рэспубліканскага. У залежнасьці ад узроўню — і канкрэтныя функцыі таго ці іншага аб'яднаньня. На самым нізкім гэта, хутчэй за ўсё, — сумесная перапрацоўка прадукцыі, яе збыт.

На рэспубліканскім узроўні — банкаўская справа, выданьне друкаванага органа, арганізацыя сувязяў з замежнымі фермерскімі арганізацыямі і г. д.

Адна немалаважная дэталь: уступленьне гаспадаркі ў такое аб'яднаньне ні ў якім выпадку не азначае страты яе юрыдычнай ці фінансавай самастойнасьці. Чаго не адбываецца пры ўваходзе ў калгас (нездарма сёньня лічаць, што з утварэньнем калгасаў каапэрацыя памерла).

Так што наўрад ці гаспадар, як Вы разважаеце, будзе баяцца каапэратыўных аб'яднаньняў. Наадварот, ён крэўна зацікаўлены ў іх.

Ня трэба блытаць функцыі саюзу і партыі. На нейкім этапе непазьбежнае ўзьнікненьне апошняй. І яна ўжо палітычнымі мэтадамі будзе абараняць інтарэсы сельскіх гаспадароў.

Зараз у рэспубліцы няма раённых, абласных аб'яднаньняў фермераў, няма і сялянскае партыі. Таму рэспубліканскі саюз ня мае строга акрэсьленых функцыяў. Адсюль і непаразуменьне: чым канкрэтна ён павінен займацца.

На мой погляд, Вы памыляецеся, калі сьцьвярджаеце, што ў Сялянскага саюза няма палітычных пэрспэктыў, раз у Вярхоўным Савеце адсутнічае наша прадстаўніцтва. Пэрспэктывы фермерства якраз вынікаюць з таго, што грамадзкасьць усё больш ясна ўсьведамляе для сябе адсутнасьць пэрспэктыў у калгасна-саўгаснай манаполіі.

Трэба быць вялікім палітычным дурнем, каб ва ўмовах недахопу прадуктаў харчаваньня, разбурэньня вясковага ўкладу жыцьця поўнасьцю перакрыць шляхі для утварэньня сялянскіх гаспадарак.

Але ж, вядома, ад Вярхоўнага Савету залежыць, наколькі спрыяльныя ўмовы будуць створаныя для фермерства на Беларусі. У хуткім часе грамадзкасьць будзе назіраць за тым, наколькі дэпутаты новага складу ВС разумеюць сувязь сялянскае гаспадаркі і паўнакроўнага рынку, становішча навакольнага асяродзьдзя, дэмаграфічнае сытуацыі, мовы, культуры. Дарэчы, праект Зямельнага кодэксу БССР, падрыхтаваны ў міністэрскіх кабінетах, значна больш кансэрватыўны, чым Асновы заканадаўства Саюза ССР і саюзных рэспублік аб зямлі.

Вы пытаецеся, ці маглі б мы паспрыяць у атрыманьні зямлі на 2 — 3 гады дзе-небудзь у Смаленскай вобласьці. Што датычыць інфармацыі і канкрэтнай дапамогі пры ўтварэньні сялянскай гаспадаркі, яе рацыянальнай арганізацыі, атрыманьня крэдытаў, набыцьця тэхнікі, будзем радыя Вам дапамагчы. Ня трэба ехаць у Смаленскую вобласьць, можна знайсьці кавалак зямлі і на Беларусі. Але нас бянтэжыць сама пастаноўка пытаньня аб набыцьці зямлі на 2 — 3 гады.

Гэта лішні раз сьведчыць пра тое, як глыбока разбурана сялянская псыхалёгія, і якія складаныя задачы стаяць перад Сялянскім саюзам.

**Мікалай Ярмоленка.**

---

## ПАРТЫЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Ініцыятыўная група апублікавала праграмны дакумэнт Партыі Незалежнасьці Беларусі (ПНБ). Дакумэнт пачынаецца эмацыянальным заклікам да суайчыньнікаў задумацца над лёсам прашчураў, «якія заўсёды імкнуліся вырашаць лёс Айчыны незалежна і самастойна».

Як выглядае з праекту праграмы, ПНБ можа пайсьці радыкальным шляхам. У праграме сказана: «Сваіх мэтаў партыя дамагаецца канстытуцыйнымі сродкамі. Пры экстрэмісцкіх дзеяньнях уладаў, накіраваных на абмежаваньне галоснасьці, дэмакратыі, сувэрэнітэту і г. д., партыя пакідае за сабой права на экстрэмізм».

БЕЛАРУС, № 369.

# СЭСІЯ СОЙМУ БНФ

Беларуская Рэспубліка будзе незалежнай. Такі зьмест карэкцыі Праграмы БНФ, якую гэты травеньскі Сойм пастанавіў вынесьці на канфэрэнцыю фронту ўлетку. Абмяркуем?

Абмяркуем. У групах, у радах, у народзе. Зрэшты, абмеркаваньне пачалося ўжо на гэтым Сойме. Пры дыктатуры КПСС ня можа быць ніякага сувэрэнітэту, — так сказаў **Зянон Пазьняк.** Ён, між іншым, паведаміў пра тое, што сябра Сойму А. Жураўлёў парваў з БНФ і выступіў супраць лініі фронту ў газэце **«Megapolis Express»** (3 траўня 1990, Масква). Забягаючы наперад скажу, што Сойм прыпыніў паўнамоцтвы Жураўлёва і вырашыў на бліжэйшым зьезьдзе БНФ паставіць пытаньне аб вывадзе яго з фронту, цяпер жа пры падліку кворуму ягоны голас ня ўлічваць. Але вернемся да незалежнасьці.

**Юры Хадыка** заўважыў, што незалежнасьць — не ізаляцыя, а наадварот. Ізаляцыя — гэта тое, што цяпер, гэта палітыка КПБ. Карысны прыклад для нас — прыклад Брытанскае імпэрыі, якаяператварылася ў Брытанскую садружнасьць народаў. Словам, Прыбалтыка, Беларусь і Ўкраіна маглі б утварыць сваю асацыяцыю незалежных народаў.

Супраць незалежнасьці цяпер выказаўся **Юры Дракахруст.** Людзі не гатовыя да аддзяленьня. (А хіба мы ўжо заўтра выходзім? — кінуў рэпліку **Уладзімер Крукоўскі).** Таму незалежнасьць ня можа быць сёньня галоўным палітычным лёзунгам. Трэба, — працягваў Ю. Дракахруст, — узяць галоўны лёзунг цяперашніх пераўтварэньняў у ГДР: «Камунізм — больш ніколі!» З-за лёзунгу незалежнасьці мы прайгралі выбары . . .

**Міхась Чарняўскі:** Нельга казаць, што мы прайгралі выбары. Да выбараў мы ня мелі нічога, а цяпер маем дэпутатаў. М. Чарняўскі падтрымаў ідэю Балтыйска-Чарнаморскай садружнасьці і выказаўся супраць рэфэрэндума па пытаньні аб выхадзе з СССР, як гэта прапануе новы саюзны закон. СССР ствараўся не шляхам рэфэрэндума, а шляхам пастановаў.

Незалежнасьць, — сказаў **Валеры Сядоў,** — гэта ня толькі нацыянальная задача. Яна і эканамічная, і сацыяльная і г. д. Шлях да незалежнасьці вельмі цяжкі, — сказаў **Адам Мальдзіс.**

Сваё бачаньне незалежнасьці выклаў **Алесь Галькевіч.** Беларусь — сябра ААН. Нам могуць аб'явіць блякаду толькі са згоды Рады бясьпекі. Але з чым мы прыйдзем у Эўропу? Трэба прыйсьці з новымі ідэямі. Беларусь — нэйтральная дзяржава. Як Швайцарыя ў Заходняй Эўропе, так мы — ва Ўсходняй. Беларусь — бязьядзерная зона. Магчыма, трэба адмовіцца ад войска. Хто нам можа пагражаць? Толькі Расея . . . Але яна ўжо будзе дэмакратычная. Калі ж і адбудзецца такая агрэсія, усё адно без дапамогі ААН мы не адаб'емся.

Ніякага нэйтралітэту! — запярэчыў Ю. Хадыка. Незалежнасьці рэспублікі могуць дасягнуць толькі калектыўнымі намаганьнямі, разам — ад Балтыкі да Чорнага мора. Тое, што прапануе Галькевіч — ізаляцыянізм.

З. Пазьняк: у садружнасьці мы можам зрабіць агульны рынак свайго ўзроўню, каб паступова інтэгравацца ў Эўрапэйскі рынак. Мы не павінны падвяргаць наш народ цяжкім выпрабаваньням . . .

Такім чынам, абмеркаваньне пачалося . . .

Ніхто, апроч нас, ня будзе думаць пра нашы інтарэсы, — сказаў **Вінцук Вячорка,** маючы на ўвазе становішча беларусаў на Віленшчыне і Беласточчыне. А таксама — на Смаленшчыне і Браншчыне, дадаў **Алесь Емяльянаў.** І яшчэ — на Пскоўшчыне, — удакладніў **Алег Трусаў.** У гэтых трох абласьцях РСФСР жыве 2 мільёны беларусаў, і трэба ім дапамагчы аб'яднацца, стварыць суполкі.

Вось тут і адбылася гарачая спрэчка. Пра паланізацыю. Адныя казалі, што яна ўзмацняецца, другія **(Д. Бічэль-Загнетава, С. Сьвістуновіч, А. Чобат)** — што ня трэба перабольшваць, што наадварот, палякі спрыяюць беларускаму адраджэньню. Але ўрэшце ўсе пагадзіліся, што трэба процістаяць любым спробам пасварыць беларуса і паляка, беларуса і літоўца . . . Дарэчы, Сойм прыняў Зварот да рабочах, прадпрымстваў і ўраду БССР з заклікам не падтрымліваць блякаду Літоўскае Рэспублікі. Акрамя гэтага, Сойм зацьвердзіў старшыню камісыі Сойму БНФ па Віленшчыне (ім стаў **Уладзімер Папруга)** і перайшоў да ўнутрыфронтаўскіх пытаньняў.

Мы павінны выказаць свае адноіны да КПСС і яе членаў у фронце. З такой заявай выступіў Валеры Сядоў. Хопіць лавіраваць!

Пытаньне пра падвойнае членства робіцца зусім актуальным. Асабліва ў сьвятле таго, што Сойм падумвае пра ўвядзеньне асабістага фіксаванага сяброўства ў БНФ, пра рэгулярныя грашовыя складкі для ўсіх сяброў фронту. Размова пра ўсё гэта пойдзе на летняй канфэрэнцыі, а пакуль Сойм вырашыў правесьці перарэгістрацыю і рэарганізацыю радаў і групаў падтрымкі БНФ і стварыў для гэтага адпаведную камісыю . . .

Сэсія скончылася, як заўсёды, пасьля паўночы. І скончылася, здаецца, больш глыбокім, чым гэта было раней, паразуменьнем «чыста дэмакратычных» і «чыста нацыянальных» сяброў Сойму. Як знак гэтага — беларуская мова ў вуснах **Сяргея Міхнова.** Дэмакратыя і незалежнасьць на Беларусі пачынаюць разумець сваю немагчымасьць адна без аднае.



**МЕНСК. Старшынём Вярхоўнага Савету БССР толькі што абраны М. Дземянцей. Міліцыя і амонаўцы стрымліваюць пратэст грамадзян на плошчы перад Домам ураду.**
Фота Алеся Крыштаповіча.

# ПАДЗЕІ

**Першага траўня сябры Менскай Заводзкай Рады БНФ узялі ўдзел у сьвяточнай дэманстрацыі. Ад гатэлю «Турыст» па Партызанскім праспэкце яны рушылі на плошчу каля Дому ўраду. Па дарозе грамада вырасла ў некалькі разоў. Зь песьнямі Данчыка, зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, з гэрбам «Пагоня», з плакатамі пра лёс мовы і культуры Беларусі, супраць байкоту Літвы дэманстранты дайшлі да галоўпаштамту. Далей шлях ім запынілі людзі ў вайскавай форме, але актывістаў Рады ўсё ж прапусьцілі на плошчу. Тут вакол іх пачалі гуртавацца людзі. Убачыўшы гэта, урад пачаў разыходзіцца з трыбунаў. Зьявіўся аўтобус з амонаўцамі, якія без папярэджаньня сталі нішчыць сымболіку і ха-**

(Далей глядзі стар. 16)

НАМ ПІШУЦЬ

## СМЕРТЬ БНФ!

Привет, народники, вам от нас, жителей Горок!

Есть у нас на работе ваш эмиссар, который приносит ваши пасквили с искаженной белорусской мовой—это «Свобода» и всякое другое — все это антисоциалистическая и антисоветсткая гадость, написанная вами. Вот теперь вашего эмиссара мы скоро сдадим в КГБ и пусть ему заткнут глотку, чтобы с нее не воняло антисоветчиной и вашей свободой. Если вы белорусы, то почему же газета выходит в Литве — в фашистском государстве, где по-русски или белорусски спроси, так скажут «не понимайт».

Ваш народный фронт и есть организация фашистского толка, антисоветской ориентации. Я сам католик и я лучше буду читать библию, чем вашу мазутную стряпню. У вас, фронтовиков народовольцев, отделить БССР от СССР не выйдет, вас как фашистов раздавят. Нет на вас Сталина, вы давно уже были бы как собаки раздавлены.

Будьте прокляты вы и ваш БНФ — фашистская организация.

Niech bendze pochwalony Ezus Kristus!
— вот это наш лозунг и девиз. И пусть живут наши правители в СССР и БССР в здравии и согласии с народом.

А вам дай бог — только смерти, и она избавит мой народ от всяких фашистов, националистов-бендеровцев, которые убили моего деда в Западной Белоруссии. И вашим друзьям фашистам литовцам тоже желаю этого самого. Смерть фашистам БНФ!

С приветом Н. С. Поздняк,
г. Горки, Могилевская обл.

Ігар МАТАВІЛАЎ

# МЭТА ПАРТОРГА ЧЫКІНА

20 сакавіка на Пленуме ЦК КПСС выступіў парторг Менскага гадзіньнікавага завода Віктар Чыкін. 27 сакавіка на Пленуме ЦК КПБ ён балатаваўся на пасаду сакратара ЦК КПБ, але не прайшоў.

Хто ж такі В. Чыкін, артыкулы й выступленьні якога цяпер шырока публікуюць рэспубліканскія газэты ды часопісы, і чыё прозьвішча нічога не казала чытачу яшчэ год назад?

Нарадзіўся ў 1949 у Менску. Рускі. У 1966 — 71 вучыўся ў БПІ на энэргафаку. З 1972 — вызвалены камсамольскі работнік. З 1974 — першы сакратар Савецкага РК ЛКСМБ. З 1976 — інструктар Савецкага райкаму партыі. У 1983 — 85 вучыўся ў ВПШ. Пасьля яе заканчэньня камуністы Менскага гадзіньнікавага завода «абралі» яго сакратаром парткаму.

Тыповая біяграфія апаратчыка. Якім жа чынам шараговы парторг ледзьве ня стаў адным з кіраўнікоў ЦК КПБ?

Уся справа ў тым, што Віктар Чыкін апынуўся выразьнікам інтарэсаў тае часткі партыйнае намэнклятуры, якой стала ясна, што цяперашняя «рэвалюцыя зьнізу» скончыцца прынамсі роспускам КПСС, а значыць, і стратай «любімае працы» . . .

«Партыя перажывае беспрэцэдэнтны за ўсю сваю доўгую гісторыю крызіс», — горка жаліцца Чыкін з трыбуны Пленума ЦК КПСС. Сярод прычынаў гэтага крызісу, паводле Чыкіна, — «засьмечваньне нашых шэрагаў кан'юнктурщчыкамі ды кар'ерыстамі», памылкі ў часе перабудовы: барацьба з п'янствам, дзяржпрыёмка і г. д. «Але ж з падобнымі праблемамі партыі даводзілася сутыкацца і раней», — працягвае ён, маючы на ўвазе, відаць, такія «праблемы», як вынікі шматлікіх і нялюдзкіх экспэрымэнтаў над нашым народам за 72 гады партыйнага кіраваньня. «Партыя з гонарам выходзіла са складаных перадзелак. Чаму ж цяпер не працуюць закладзеныя ў яе канструкцыю магутныя мэханізмы самарэгуляцыі?» Цяжка зразумець, якія «механізмы» мае на ўвазе парторг. Як вядома, родная Чыкіну партыя «з гонарам выходзіла са складаных перадзелак» толькі шляхам нечуваных у гісторыі масавых рэпрэсый супраць уласнага народу.

Парторг лічыць, што прычына крызісу ў тым, што хвароба закранула ідэйныя асновы партыі. «У чым канкрэтна каштоўнасьці рабочае клясы не супадаюць з агульначалавечымі? Як творча разьвіваць вучэньне Маркса — Энгельса — Леніна, адкінуўшы клясавы падыход, што складае яго сэрцавіну?»

Агульнавядома, да якіх ахвяраў прывёў «клясавы падыход». Палажэньне пра «выбраную клясу», якая ажыцьцяўляе сваю дыктатуру над непралетарыямі, — сутнасьць клясавае тэорыі Маркса — Леніна. Гэтая тэорыя клясавае перавагі родная фашыстоўскай. У кожным разе перавага надаецца адной грамадзкай групе паводле расавае ці клясавае прыкметы. Нездарма пракурор Прагі паведаміў пра магчымую забарону КПЧ як фашыстоўскае плыні («Известия», 1990, № 109).

«Чаму ў праграмным дакуманце КПСС увогуле няма згадкі пра камунізм?» — зьдзіўляецца Чыкін. Ён ня думае пра тое, што дзеля казак пра «жыцьцё пры камунізме» мы ўжо паклалі дзесяткі мільёнаў чалавечых жыцьцяў ды апынуліся ля разьбітых начовак.

Новы рэфарматар КПСС Чыкін прапануе адмовіцца ад «партыі ўсіх працоўных» і «вярнуцца да нашых вытокаў — партыі рабочае клясы». Дзеля чаго яму гэта трэба? Магчыма, дзеля новае дыктатуры — ужо над сялянствам і інтэлігенцыяй?

«Праўда, вучоныя цяпер шмат гавораць пра сьціраньне граняў паміж клясамі, — працягвае Чыкін, — але гэта вучоныя, а вось самі рабочыя, як я ня раз пераконваўся, гэтыя грані бачаць ясна».

Вось тут парторг мае рацыю. Большасьць рабочых гадзіньнікавага завода ясна бачыць мяжу паміж сабою і партыйным функцыянэрам Чыкіным. Думаю, Пленум ЦК зь цікавасьцю паслухаў бы расповяд пра тое, як на заводзкай канфэрэнцыі па вылучэньні кандыдата ў дэпутаты рабочыя спыталі ў старшыні СПК: «Паводле якога права на гэтую канфэрэнцыю абраны парторг і ягоныя намесьнікі? Ці можна іх лічыць членамі працоўнага калектыву?» Партыйны «аратар» сядзеў, апусьціўшы галаў, у той час, як разгубленая жанчына спрабавала растлумачыць, навошта патрэбны парткам вытворцам гадзіньнікаў. Зь цікавасьцю даведаліся б на Пленуме і пра тое, што зь дзесяткаў работнікаў, якія сёлета паклалі свае партбілеты на стол парторга, большасьць — рабочыя, гэта значыць, паводле Чыкіна, «здаровае ядро партыі».

За вярсту абходзіць парторг цэх № 54, у якім сам стаіць на партыйным уліку і дзе найбольш моцная на заводзе група падтрымкі БНФ. Ён, напэўна, баіцца «нефармалаў» і таму шукае сабе прыхільнікаў у зборачных цахах, палохаючы змучаных працай, чэргамі і часта маладукаваных жанчын «эксплуатацыяй, масавым беспрацоўем і рэстаўрацыяй капіталізму».

Няхай бы Чыкін паразмаўляў з рабочымі 54, 26, 20 цахоў пра свае пляны пераўтварэньня КПСС у «рабочую партыю з клясавым падыходам», а разам пацікавіўся б у іх, да якое «клясы» яны адносяць парторга і ягоных вызваленых намесьнікаў. Ён бы пачуў, што дзевяты паверх высознага будынка МГЗ на Ленінскім

праспэкце, дзе разьмешчаны парткам, рабочыя інакш як «паверхам дармаедаў» не называюць.

Яму тут хутка дакажуць, што большай эксплуатацыі, чым у нас, няма ні ў ваднай капіталістычный краіне і прывядуць працэнт заробку ў нацыянальным даходзе «ў іх» і «ў нас». Парторгу растлумачаць, што доля прыватніка ў гадавым даходзе ўсіх фірмаў ЗША, дзе працэнт клясычных капіталістаў большы, чым у іншых краінах, складае ўсяго 6% («Известия», 1990, № 41). Пераважная частка фірмаў зьяўляецца акцыянэрнымі, гэта значыць, большасьць працоўнага насельніцтва — капіталісты. У выпадку няўдачы прыватны ўласьнік рызыкуе ўсёй сваёй маёмасьцю, а акцыянэр — толькі доляй, якая ў акцыях.

Прычым клясычны «эксплуататар-уласьнік» існуе таму, што ён здольны імгненна адрэагаваць на кан'юнктуру рынка, значыцца, хутка вырабіць патрэбны тавар. І ў гэтым зь ім не параўнаецца, як правіла, ніводнае дзяржаўнае ці акцыянэрнае прадпрыемства. Тое самае і з аплатай працы. Найбольш высокая яна «у гаспадара», але гэта не таму, што ён занадта добры. Каб гаспадар ня дзёр з рабочага тры скуры, існуе вольна абраны і падкантрольны народу ўрад, які законам зацьвярджае мінімальны ўзровень пагадзінавай аплаты працы, менш за які плаціць забаронена. Той жа ўрад зацьвердзіць такі памер падатку капіталісту, каб не задушыць ягоны інтэрас. Падаткі ідуць у скарб і расходуюцца, паміж іншым, яшчэ й для выплаты дапамогі беспрацоўным.

Я думаю, многія зборшчыцы гадзіньнікавага завода з задавальненьнем пяройдуць у беспрацоўныя, ведаючы, што муж будзе атрымліваць у некалькі разоў болей у гаспадара, чым цяпер, на «народным» прадпрыемстве. Не запярэчаць яны й таму, што муж кіне піць, каб ня страціць працу.

Цікава, колькі «камуністак» у белых халатах і шапачках аддадуць перавагу дому, захочуць зьмяніць патагонную сістэму канвеераў на выхаваньне дзяцей . . .

Але дзеля гэтага трэба мець нармальны ўрад, а ня той, які ў 1917 захапіў уладу і з тых часоў вядзе нас «ад перамогі да перамогі», апошняя зь якіх — Чарнобыль.

«Не ўпусьціць зь віду мэту», — так называецца вялікі артыкул Чыкіна ў «Политическом собеседнике» № 12 за 1989. А мэта Віктара Чыкіна і падобных ідэолягаў — атрымліваць заробак, у некалькі разоў вышэйшы, чым сярэдні па заводзе, займаючыся пры гэтым арганізацыяй сацспаборніцтваў, працоўных пачынаў, зборам партыйных складак з шараговага партыйнага падаткаплацельшчыка . . . і іншымі «карыснымі» і «адказнымі» справамі.

Не ад добрага жыцьця мітусіцца зараз парторг, ствараючы гарадзкі клюб «Камуніст», складаючы «Зварот да Пленума» і «Адкрыты ліст ЦК КПБ». Трэба зьвярнуць на сябе ўвагу тых уплывовых сілаў у партапараце, якія разумеюць, што лепшы сродак для канчатковага выкрыцьця КПСС і ліквідацыі манапольнай партыйнай улады — цяперашняе адыёзнае кіраўніцтва КПБ на чале з Сакаловым.

Чыкіну трэба як мага хутчэй «выбрацца» ў вышэйшыя эшалёны, бо вось-вось рабочыя пагоняць парткамы з заводаў, і беспрацоўнымі стануць перш за ўсё такія «барацьбіты за справу рабочае клясы», як Чыкін. Ён і сам не хавае гэтага: «Дзе ўпэўненасьць у тым, што заўтра і мы не апынемся на вуліцы?» («Правда», 1990, № 79).

Ня ведаю, як там на Пленуме, а выбаршчыкі яго зразумелі. 4 сакавіка яны прагаласавалі супраць ягонай кандыдатуры ў народныя дэпутаты БССР. Адначасова парторг не прайшоў і на выбарах у Першамайскі райсавет. Пасьля правалу на паўторных выбарах у райсавет 17 красавіка, дзе Чыкін ішоў без канкурэнтаў, ён, думаю, яшчэ больш пераканаўся ў слушнасьці сваёй мэты.

Гэтая мэта — арганізаваць частку камуністаў і рабочых, напалоханых небясьпекаю эксплуатацыі і рэстаўрацыі капіталізму, і задушыць цяперашнюю дэмакратыю ў зародку.

Таму яшчэ рана казаць пра незваротнасьць «адлігі» і, склаўшы рукі, чакаць перамен. Чыкіны не адмовіліся ад сваіх мэтаў. 4 траўня парторг гадзіньнікавага завода большасьцю ў 6 галасоў вылучаны кандыдатам у дэпутаты XXVIII зьезду КПСС.

# Паулік Марозау таксама беларус

**Пра гэта чытаем у красавіцкім нумары часопіса «Родник» (Рыга):**

**«Продкі Паўліка Марозава былі, паводле бюракратычнага вызначэньня, іншародцамі, гэта значыць людзьмі нярускай нацыянальнасьці. І жылі яны ў заходняй частцы Расейскай імпэрыі, на Беларусі. Беларусамі былі маці і бацька Паўліка — па крыві, мейсцы нараджэньня і дакумантах. І сам Паўлік быў беларусам . . .**

**У пачатку стагодзьдзя Марозавы сярод тысячаў іншых беларусаў падаліся шукаць шчасьця ў Сібір . . . Адпраўка беларусаў у Сібір была часткай палітыкі русіфікацыі — іх адрывалі ад свае зямлі, ад мовы. Але — дабраахвотна . . . Увесь гэты раён Сібіру засялялі беларусы. На адведзеную дзялку прыйшлі ў 1906 годзе сорак сем'яў, старэйшы з мужыкоў быў Герасім Сакаў, ад яго і назвалі вёску Герасімаўка. Дзед Паўліка зь сям'ёй зарэгістраваны ў Герасімаўцы з 26 кастрычніка 1910 года . . .**

**Беларусы-перасяленцы жылі сваёй натуральнай гаспадаркай. Рускіх яны не любілі і называлі «чалдонамі».**

Алег Дзярновіч

# СВАЯ ВАЛЮТА

Уласная фінансавая сістэма — сьведчаньне і сродак удзелу нацыі ў сусьветным эканамічным разьвіцьці. Да нашых прыбалтыйскіх суседзяў разуменьне гэтага прыйшло раней. Літоўцы, латышы і эстонцы абвясьцілі конкурс на зьнешні выгляд сваіх грошай, а назвы гэтых грошай яны проста адновяць старыя — літы, латы і кроны рэальна існавалі ў трох дзяржавах міжваеннага часу. Нам жа давядзецца выбіраць і назву. Таму зірнем, якія беларускія грошы вядомыя ў гісторыі?

Ужо ў часы раньняга фэадалізму на Беларусі сфармаваліся рысы самабытнае грашовае сістэмы: у так званы «безманетны пэрыяд» (900 — 600 гадоў назад) у нас быў распаўсюджаны свой тып **грыўны**, які формай і вагой адрозьніваўся ад кіеўскага і наўгародзкага тыпу. А 600 гадоў назад усталявалася Полацка-Віцебская грашова-вагавая сістэма, якая стала папярэдніцай грашовае сістэмы Старабеларускае дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Гэтая сістэма была разьвітая і паўнацэнная, яна арганічна ўваходзіла ў эўрапэйскі гаспадарчы мэханізм. Напрыклад, доўгі час польскі грош каштаваў толькі 4/5 беларускага **гроша** (адпаведна 8 і 10 **дэнарыяў**, ці як іх у нас называлі — **пенязей**). А пенязь узьнік у выніку сынтэзу мясцовых традыцыяў (ягоным прататыпам была полацка-віцебская **далгея**) і заходнеэўрапэйскага ўплыву (менавіта сам **дэнарый**). 300 гадоў назад пенязь на Беларусі стаў самым дробным наміналам. Таму і зараз ёсьць сэнс прыняць яго за найменшую грашовую адзінку.

У сярэднявеччы беларусы ўмелі хутка рэагаваць на ўсе новыя дасягненьні ў фінансава-эканамічным жыцьці. І калі ў 1518 годзе Чэскае каралеўства распачало эмісію новай буйной манеты — срэбнага **талера**, які стаў унівэрсальным эўрапэйскім наміналам, Беларусь не засталася ў баку. Ужо праз 10 гадоў у тагачасных нашых запісах згадваюцца талеры. Свае талеры Старабеларуская дзяржава пачала выпускаць у 1564 годзе (Польшча — у 1580), яны мелі доўгае і шырокае распаўсюджаньне. Таму лягічна сёньня прыраўняць 1 талер да 100 пенязяў. (Згадаем, што ад талера вядзе свой радавод і даляр).

Ня выключаная магчымасьць выкарыстаньня і прамежкавых наміналаў (у расейцаў, напрыклад, існуюць паняцьці «гривенник», «полтинник»). У нас жа 10 пенязяў маглі б адпавядаць 1 **шэлягу**. Шэлягамі называлі шылінгі ці солiды — таксама унівэрсальныя эўрапэйскія манеты. Беларусь была самай усходняй краінай іх вырабу.

Верагодна, трэба будзе знайсьці адпаведнік і расейскаму «червонцу». Гэта можа быць **дукат** — каштоўная залатая манета. Менавіта дукату адпавядаў першы расейскі «червонец» 1701 года. У беларускай літаратуры дукат быў сымболем багацьця — у творах Багушэвіча, Купалы ды іншых.

Вяртаньне зь мінуўшчыны пералічаных назваў беларускіх грошай дазволіць пазьбегнуць блытаніны і набыць беларускай гаспадарцы свой «фінансавы твар».

# УВАГА!

**Тэрміналягічная камісія Таварыства Беларускае Мовы пачынае вялікую працу па стварэньні ды ўпарадкаваньні беларускае навуковае тэрміналёгіі. Гэтую сваю дзейнасьць камісія лічыць непасрэдным працягам працаў Галоўнае Тэрміналягічнае Камісіі Інстытуту Навуковае Мовы, якая ў сваім поўным складзе была расстраляная за сталінскімі часамі.**

**У сваёй працы новая камісія кіруецца наступнымі прынцыпамі: 1) творчае засваеньне здабыткаў 20-х гадоў; 2) арыентацыя перадусім на ўласныя рэзэрвы беларускае мовы і яе дыялекты; 3) непрыймальнасьць простых калькаваньняў з расейскае мовы, арыентацыя на агульнаэўрапэйскую лексыку.**

**Спэцыялістаў усіх галінаў дзейнасьці, якія падзяляюць ідэю самакаштоўнасьці беларускае мовы, камісыя заклікае спрычыніцца да канкрэтнае працы па стварэньні тэрмінаў ды ўкладаньні слоўнікаў. Камісыя дапаможа Вам: кансультацыямі па мэтадах тэрміналягічнае працы; усталяваць кантакты са спэцыялістамі розных галінаў дзейнасьці; разнастайнамі слоўнікамі, тэрміналягічнымі распрацоўкамі, інфармацыяй; у рэдагаваньні й выданьні завершаных працаў.**

**Тэлефон: 344-278 (у Менску. Намесьнік старшыні камісіі Алесь Гуркоў). Лісты просім кіраваць на адрас: Алесю Гуркову, д. 143, кв. 65, вул. Горкага, інд. 220100, Беларусь. Шчыра просім укладаць наступныя дадзеныя: ваша спэцыяльнасьць, характар занятку, якім зьбіраецеся займацца, каардынаты для сузязі.**

# НАМ ПІШУЦЬ:

Дзякуй Багу, настаў іншы час. Беларусы ўсхамянуліся: што ж мы робім! Цураемся сваёй роднай мовы!

І пачалося адраджэньне. Мы загаварылі на роднай мове! І нават зьдзівіліся: якая яна прыгожая! Пачалося адраджэньне нашай нацыянальнай культуры.

Я таксама «захварэла» на адраджэньне. Але... пасьля таго, як мне давялося папрацаваць у Доме літаратараў, куды я імкнулася, каб штодня чуць родную мову і самой гаварыць на ёй...

Здарылася так, што ў Дом літаратараў я зайшла з «чорнага ходу», а дакладней, з таго боку, дзе літаратары адпачываюць. Выпіваюць філіжанку кавы, могуць выпіць і чарку-другую каньяку. Будучы сьведкай гэтых адпачынкаў, я зразумела, што далёка ня кожны літаратар можа ці нават мае права несьці культуру людзям. Асабліва гэта датычыць моладзі, але і некаторых літаратараў старэйшага пакаленьня (не для друку: народны паэт Прыходзька, пісьменьнік Дайнека. Ёсьць і іншыя, якіх я ня ведаю прозьвішчаў).

Неяк няёмка павучаць людзей з вышэйшай адукацыяй, але ж адукацыя і інтэлігентнасьць — паняцьці розныя. Каб несьці да людзей культуру, трэба ведаць, што гэта ня толькі чысьціць нос у хустачку. Культурны чалавек павінен мець высокія маральныя прынцыпы, быць ветлівым і зычлівым, усяму гэтаму вучыць дзяцей. Усё павінна пачынацца з пачуцьця сораму, якое не дазволіць гаварыць непрыстойнасьці, тым больш у прысутнасьці жанчын. І сорам жа не дазволіць дзяўчатам і жанчынам прысутнічаць і цярпець (а яны тут церпяць) непрыстойныя выразы і хамства мужчын. Сорамна напівацца, каб ажно заснуць за сталом, выкрыкваць абы што, казаць старэйшаму «ты»...

Я сапраўдная беларуска-мінчанка. 7 клясаў скончыла ў беларускай школе. І мая мара — ганарыцца сваім паходжаньнем, сваім народам, каб слова «Беларус» гучэла ганарова. Каб кожны ведаў, што Беларус — гэта значыць чалавек высокай культуры, што ён ніколі ня зробіць дрэнны ўчынак, тым больш непрыстойны. У даўнейшыя часы былі такія выхаваныя беларусы. Трэба адрадзіць тыя традыцыі. І пачынаць гэтае адраджэньне трэба літаратарам, і пачынаць — зь сябе.

**Ціна МІКАЛАЕВА.**

# ІКАР НАД КРАМЛЁМ



**(Працяг са стар. 4)**

«Дзядал доўга думаў, як уцячы яму, і нарэшце знайшоў ратунак, як вызваліцца з крыцкага нявольніцтва...»

Трагічная сьмерць Янкі Купалы, ягонае падзеньне ў лесьвічным пралёце гатэля «Масква», што стаіць непадалёк ад Крамля, зьнітавалася ў мяне з папярэднімі развагамі.

Супадзеньне? Містыка? Абсурд?

Хай сабе і так. Але няма сілы слухаць нязграбныя развагі літаратурных крытыкаў, якія апошнім часам пачалі рабіць наскокі на творчасьць найвялікшага беларускага паэта.

Ня трэба папракаць Купалу. Яго трэба зразумець.

Падзеньне Купалы — гэта падзеньне Ікара, — гэта падзеньне беларускае нацыі.

**Вазьмі-ж мяне, лётчык,**
**з сабою,**
**Ня будзеш ты клопату**
**мець!**

Лётчык маўчыць.

# ХТО ЖЫВЕ У ВІЛЕНСКІМ

Літва абвясьціла пра незалежнасьць. З далёкай Аўстраліі гэтая падзея можа выглядаць дастаткова адназначна, каб адразу прызнаць яе на дзяржаўным узроўні. Большасьць жа краінаў чакаюць разьвязкі таго шырокага кола праблемаў, што зьвязаныя з выхадам Літвы з СССР. Сярод гэтых праблемаў згадваюцца тэрытарыяльныя, якія патрабуюць, між іншым, уліку беларускіх інтарэсаў.

Палітыка ігнараваньня інтарэсаў беларускага народу мае даўнія традыцыі. Яна вызначаецца шматвяковым імкненьнем Польшчы паявлічыцца за кошт заходніх і Расеі — за кошт усходніх беларускіх земляў. Істотны фактар каляніяльнае палітыкі Польшчы і Расеі ў дачыненьні да Беларусі — ня толькі тэрытарыяльная экспансія, але й сталае імкненьне зьмяніць этнічную арыентацыю народа (апалячыць ці русіфікаваць), каб зацьвердзіцца тут на стагодзьдзі і абгрунтаваць законнасьць сваіх дамаганьняў.

Гісторыя этнагенацыду Беларусі яшчэ не напісаная. Пачаты больш за 200 гадоў назад Польшчай, ён быў працягнуты Расеяй: сьпярша імпэрскай, пасьля — савецкай. Мэтад этнічнае пераплаўкі беларусаў у палякаў і расейцаў той самы — адмена беларускае мовы на дзяржаўным узроўні, а пасьля перавод школ, цэркваў і касьцёлаў на польскую і расейскую мову адпаведна. Дастаткова згадаць пляяду знакамітых «палякаў» беларускага паходжаньня: Касьцюшка, Міцкевіч, Манюшка, Агінскі ды іншыя, каб зразумець, якія вялікія сілы аддаў беларускі народ польскай ідэі, застаючыся сам у рабстве, пакінуты і забыты сваёй, але польскамоўнай інтэлігенцыяй.

Своеасаблівы рэкорд, варты кнігі рэкордаў Гінэса, — этнічная пераарыентацыя насельніцтва цэлага рэгіёну — Віленшчыны — за сорак пасьляваенных гадоў. Сёньня 92% насельніцтва Віленшчыны (бязь Вільні) складаюць палякі. Нават царская турма народаў не змагла дасягнуць такіх вынікаў за 200 гадоў.

Кожны рэкорд, а тым больш «дасягненьне» сусьветнага ўзроўню не нараджаецца на пустым мейсцы, без папярэдняе падрыхтоўчае працы, тым больш, што ўстаноўлены рэкорд не ў магутных Аўстра-Венгерскай ці Расейскай імпэрыях, а ў маленькай і блізкай да нас Літве. Як гэта адбылося?

Вялікае Княства Літоўскае, што існавала некалькі стагодзьдзяў, было нават больш славянскай дзяржавай, чым Расея. Славянскае насельніцтва складала ў ім ад 70 да 90%. З прычыны перавагі беларусаў, беларуская мова ў Княстве была дзяржаўнай, а самі беларусы аж да XX стагодзьдзя называліся літвінамі (ад назвы Княства. Згадайце Брэст-Літоўскі, Менск-Літоўскі і г. д.). Сучасныя літоўцы называліся жмудзінамі.

Сталыя войны з Масковіяй прывялі да аслабленьня Княства і шчыльнага саюзу яго з Польшчай. Утварылася фэдэратыўная дзяржава — Рэч Паспалітая. У Рэчы Паспалітай Княства было даволі незалежнае ад Польшчы (асабліва калі параўнаць гэтую фэдэрацыю са сталінскай ліпавай фэдэрацыяй рэспублік СССР).

У гэты час у Эўропе і ў Княстве адбываюцца буйныя рэлігійныя пераўтварэньні: рэфармацыя і — сьледам за ёй — контррэфармацыя. Прагрэсыўныя ідэі рэфармацыі былі падтрыманыя ў асяродзьдзі адукаваных магнатаў Княства, дзе спрадвеку і простае насельніцтва вызначалася нефанатычнасьцю і рэлігійнай цярплівасьцю. Можна здагадацца, што імкненьне Радзівілаў ды іншых умацаваць у Княстве кальвіністкую царкву вызначалася ня толькі прыхільнасьцю да рэфармацыі, але й разуменьнем ролі каталіцтва і праваслаўя Польшчы і Расеі ў іх экспансіі на землях Княства.

Контррэфармацыя суправаджалася значным пашырэньнем езуітаў на Беларусі. У езуіцкіх школах разам з высокай адукацыяй закладваліся першыя цагліны паланізацыі каталіцкага насельніцтва Беларусі. Запушчаны ў 17 стагодзьдзі каталіцкі этнамлын працягвае працаваць да нашага часу. Асабліва густы ягоны «памол» у 20 стагодзьдзі.

Гэтаму спрыяла, дарэчы, і татальная русіфікацыя беларускага насельніцтва ў 30-я гады, угрунтаваная на тэроры органаў НКВД. Беларускае пытаньне было блізкае да канчатковага «вырашэньня». Беларускаму верніку заставалася выбіраць: быць рускім або палякам. Трэйцяга вартага выбару не было, бо раздушаны тэрорам народ сьціхнуў, каб ужо зьнікнуць назаўсёды. Страціўшы сваю мову, сваю гісторыю і самасьвядомасьць, ён страціў павагу да самога сябе, а дзеці ягоныя памкнуліся пад чужыя сьцягі. Усе прыкметы сьмерці народа былі ў наяўнасьці: поўная непрытомнасьць дазваляла кроіць ягоную тэрыторыю, ішло імклівае ўнутранае разлажэньне — праз русіфікацыю ды апалячваньне. Пасьля вайны адбыліся масавыя ўцёкі — перасяленьне беларусаў-каталікоў у Польшчу (каля 10% насельніцтва). Бязбольна прайшла і ампутацыя Віленскага краю, а пасьля і Беластока. На нашых вачох намаганьнямі каталіцкай царквы і Літоўскае савецкае дзяржавы ўзьнік новы «польскі» этнас. Беларусы, адарваныя ад зганьбаванае, растаптанае і забітае Бацькаўшчыны, ажыцьцявілі стопрацэнтавы пераход у палякі. І тут далучэньне да чужой мовы і культуры суседзяў ішло праз касьцёл і школу.

Заўважу, што колькі-небудзь істотных міграцыяў этнічных палякаў на Віленшчыну гісторыя не фіксуе. Больш таго, ёсьць нарматыўныя акты Княства, якія фактычна забараняюць перасяленьне польскае шляхты на Беларусь і ў

# КРАІ?

Літву. Паводле перапісу 1897 года, у Віленскім краі жылі 57% беларусаў, 17% літоўцаў і 8% палякаў. Перад апошняй вайной Пілсудзкі перасяляў сюды польскіх чыноўнікаў, але гэта таксама не прывяло да значнага павелічэньня польскага насельніцтва, а самі перасяленцы, як і многія сотні тысячаў беларусаў, былі неўзабаве дэпартаваныя ў Сібір ці ў Курапаты.

Поўнае разбурэньне беларускага этнасу на Віленшчыне супадае па часе са стопрацэнтавай русіфікацыяй Менску і іншых гарадоў Беларусі. Хіба што ў Менску яшчэ выконваліся «правілы гульні» ў беларускае дзяржаўнае ўтварэньне — БССР. «Захаваньне» народа, які даў імя рэспубліцы, «гарантавалася» тут ... адпаведным запісам у пашпарце.

Пачынаючы з Брэсцкага міру, усе пытаньні пра межы паміж СССР, Германіяй, Польшчай і Літвой вырашаліся ня толькі без уліку законных правоў беларусаў, але й без удзелу на перамовах іхніх прадстаўнікоў. І цяпер такая палітыка працягваецца. Як і раней, Масква дэманструе перакручанае ўяўленьне пра гісторыю Беларусі і Літвы, поўнае няведаньне этнічных праблемаў Віленскага краю. Адкуль кіраўніцтву Крамля ўзяць праўдзівую інфармацыю, калі ў кожнай суседняй зь Беларусьсю краіны ёсьць свая зручная (польская, расейская, літоўская) вэрсыя гісторыі беларускага народу, а ў кіраўніцтва БССР такой вэрсыі няма. Між тым, у аснове кожнай з суседзкіх вэрсыяў ляжыць імкненьне абгрунтаваць свае права на гэтую зямлю, гэты народ, яго мінуўшчыну і будучыню.

Аднаўленьне гістарычнае праўды — вось першае, што дапаможа нам і нашым братам-палякам зь Віленшчыны ўсьвядоміць нашу глыбокую крэўную роднасьць як прадстаўнікоў дзьвюх галінаў аднаго народу, штучна падзеленага рэлігійнымі і культурна-палітычнамі бар'ерамі.

**Віктар СІЎЧЫК.**

---

## Таццяна САПАЧ

* * *

**Так, невыносна жыць на гэтай зямлі, калі без**
**цябе *і* крыху іранічных вершаў пра бэз,**
**ані да цябе непадобных і нават да**
**мяне ані не падобных, а толькі, бадай,**
**да нашых з табою магчымых дзяцей,**
**якім таксама — шкада ... — ня будзе**
**прасьцей**
**на гэтай зямлі. Яна — па звычцы —**
**завецца нашай,**
**а звалася некалі белай ... — Ідзіце на!... шайтаны, паскуды, крывыя, рагатыя, гады,**
**сьвіньні, як*і*м даўно н*і*чога «ня нада»,**
**абы вакол штурхаліся, жэрлі так*і*я ж**
**сьвіньні ...**
**О, невыносна яшчэ ... бязь Вільні.**




**Мікола Купава. ВІЛЬНЯ.**

# Людзі Беларусі!

**ПАРТЫЙНЫ АПАРАТ ПАЙШОЎ НА ПАРУШЭНЬНЕ КАНСТЫТУЦЫІ, КАБ ВЫБРАЦЬ СВАЙГО СТАЎЛЕНІКА М. ДЗЕМЯНЦЕЯ НА СТАРШЫНЮ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ БССР.**

**ГЭТА — ЗЬНЯВАГА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ, ЯКІ ПАТРАБАВАЎ АДСТАЎКІ ДЗЕМЯНЦЕЯ.**

**КАБ ВЫКАЗАЦЬ НАШ АГУЛЬНЫ ПРАТЭСТ, ЗАКЛІКАЕМ УСІХ НА ПЛОШЧУ ПЕРАД ДОМАМ УРАДУ 29.05.90 (АЎТОРАК) А 17.00.**

**Управа Сойму БНФ «Адраджэньне».**

# ПАДЗЕІ

(Працяг са стар. 9)

**пацъ дэманстрантаў. У аўтобусе, куды закінулі дэманстрантаў, амонаўцы кулакамі тлумачылі Марку Бэрштэйну, што габрэі ня маюць права размаўляць па-беларуску. Сьпехам былі складзеныя пратаколы і прызначаная дата суда. Але як 4 гэтак і 11 траўня народны судзьдзя маскоўскага суда адклала разбор гэтае справы.**

* * *

Аргкамітэт Дэмакратычнае Партыі Беларусі пачаў выдаваць свой бюлетэнь «Рэспубліка». У першым нумары зьмешчаныя праекты статута партыі, палітычнае рэзалюцыі, звароту да грамадзянаў Беларусі.

Пункт 4 праекта статута «Аб адносінах да БНФ і іншых палітычных арганізацыяў» кажа: «Партыя шануе здабытак і мэты БНФ «Адраджэньне» і супрацоўнічае зь Беларускім Народным Фронтам на прынцыпах канфэдэрацыі — як незалежная і самастойная партыя». ДПБ не прызнае падвойнага членства.

Заявы і складкі на новую партыю Аргкамітэт просіць дасылаць на адрас: 230026, Беларусь, Горадня, бульвар 60-годдзя Кастрычніка, д. 61, кв 172, Дзьмітрыеву Віктару Мікалаевічу, тэл. на працы 44-32-41.

* * *

**19 траўня Саюз рабочых Літвы ладзіў у Вільні мітынг на якім быў прыняты наступны ЗВАРОТ да працоўных Расеі, Украіны, Беларусі, Малдавіі і Рэспублікаў Сярэдняе Азіі, Каўказу:**

**«Мы, удзельнікі мітынгу, накіраванага супраць ваеннага, палітычнага ды эканамічнага гвалту Крамля над Незалежнай Літоўскай Дзяржавай, зьвяртаемся да працоўных і інтэлігенцыі асабіста, да арганізаваных рухаў і арганізацыяў, да органаў самакіраваньня гарадоў і рэгіёнаў з просьбай сваімі дзеяньнямі арганізаваць ці падтрымаць Усеагульны Антыблякадны Рух, як спрыяе ўмацаваньню сапраўднае салідарнасьці, пачуцьця годнасьці ды адказнасьці за ўласны лёс. Гэта неабходна ў нашай агульнай барацьбе за вызваленьне з-пад прыгнёту камуністычнай, карумпаванай камандавай сыстэмы.**

**Наша мэта — узаемавыгаднае супрацоўніцтва на груньце агульначалавечых ідэалаў: СВАБОДА, РОЎНАСЬЦЬ, КУЛЬТУРА, ВЕРА».**

Алесь САЛАВЕЙ

# ТРЫЯЛЕТ

Мой бел-чырвона-белы
сьцяг —
Зямлі мае краса і слава!
Імкненьне ейнае і справа,
Мой бел-чырвона-белы
сьцяг,
Барвовы шляк зары
крывавай,
Нябёсаў гладзь, палёў
прасьцяг —
Мой бел-чырвона-белы
сьцяг —
Зямлі мае краса і слава!

# АБВЕСТКІ

Усе, каму дарагая справа адраджэньня Беларусі, выпісвайце, чытайце ды пашырайце беларускую газэту СВАБОДА.

Грошы й замовы на падпіску просім кіраваць на адрас: 220600, Менск, вул. Фр. Скарыны, д. 3, кв. 35 Бяляцкаму Аляксандру Віктаравічу.

Калі Вы жадаеце зьмясьціць Вашу рэкляму на старонках беларускае газэты СВАБОДА, зьвяртайцеся, калі ласка, па тэл. 20-96-33.

Рэдакцыя беларускай газэты СВАБОДА здыме памяшканьне для свае працы. Неабходныя варункі: тэлефон, блізка ад цэнтру. Чысьціня й парадак гарантуюцца. Тэл. 34-42-78 (Алесь).

---

Хто ахвотны весьці сталы абмен дэмакратычнае прэсы Беларусі на беларускія выданьні нашых суайчыньнікаў за мяжой, зьвяртайцеся, калі ласка да Алеся Алехніка з Аўстраліі на адрас:
Mr. A. Alechnik, 52
Edensor Road, Cabramatta
NSW, 2165 Australia.


# СВАБОДА

СВАБОДА. Беларуская газэта. Выданьне Выбарчай камісыі БНФ «Адраджэньне».
Наш адрас: 220045, Менск, п/с 17.
Тэлефакс (0172) 344278, тэлефон 34-42-78.
Выпуск падрыхтавалі: А. Гуркоў, С. Дубавец, П. Жук.
Здадзена ў друк 24 траўня 1990.
Друкарня «Liesma»
Заказ № 6, наклад 30000, кошт 40 кап.

Atbildīgais par «Metsepole» biļetena pielikumu baltkrievu valodā P. Zuks.